Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

**Цана асобнага нумару 50 гр.**

# Саха

**БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ,**
**выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларуск. Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.**

**Падпісная плата:**

за год . . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
**Вільня, Віленская 8—3.**

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

| № 2 | Вільня. Кастрычнік 1930 г. | Год І. |
|---|---|---|

## Зьмест:



ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цена асобнага нумару 50 гр.

# Саха

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І КААПЭРАЦЫІ,
выдаецца Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

Падпісная плата:
за год . . . . 5 зл.
за паўгода . . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
Вільня, Віленская 8 — 3.

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісу ад 11—1 што дзень апрача сьвят.

№ 2 | Вільня. Кастрычнік 1930 г. | Год I.

## Зьмест:



Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.

Год 1-ы № 2






БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

Вільня Кастрычнік 1930

# Сучасны гаспадарчы крызіс.

Мы ўсе зьяўляемся сьведкамі, што ў нашым гаспадарчым жыцьці ня ўсё ў парадку. Ці то селянін, ці работнік, кожны з іх адчувае, што жыць трудна. Селянін прадаючы прадукт свае гаспадаркі, за атрыманыя грошы можа купіць вельмі мала,—работнік-жа або ня можа знайсьці працы, або нават знайшоўшы яе працуе за мізэрную плату і, рэч ясная, што і купляць ён можа таксама мала. Як і ў адных, так і ў другіх, як бачым, т. зв. пакупная здольнасьць вельмі слабая. Пры такім стане рэчаў прамысловасьць і дробная вытворчасьць ня могуць выпушчаць на рынак большую колькасьць тавару, бо няма на яго спажыўцоў. Прамысловасьць, інакш кажучы, абмяжоўвае сваю вытворчасьць, у выніку чаго маем безработных, слабы гандаль — і гэтак гаспадарчы крызіс ізноў цягнецца далей. Вось зачараванае кола, з якога знайсьці выхад трудна. Спрабуем аднак акрэсьліць тыя аснаўныя прычыны, якія выклікалі і выклікаюць надалей усе гэтыя непажаданыя зьявішчы ў нашым гаспад. жыцьці,— якія мы тут агулам завем крызісам. Як ведама, ня толькі ў нас перажываецца гэты гаспадарчы крызіс, але амаль ува ўсіх краёх Амэрыкі і Эўропы бачым тое самае зьявішча. Аснаўныя прычыны сучаснага гаспадарчага палажэньня можна падзяліць на: 1) агульна-сусьветныя, г. зн. уласьцівыя кожнай краіне і 2) мяйсцовыя г. зн. уласьцівыя толькі пэўнай краіне, ці дзяржаве. Што да агульна-сусьветных прычын у першую чаргу мусім адзначыць значнае паніжэньне за апошнія некалькі гадоў цэн сыр'я, выкліканае пашыранай вытворчасьцю, якая ўся кінутая на рынак ня можа сабе знайсьці купцоў. Адгэтуль паўстае надвыжка тавараў, большая подаж, у выніку чаго цэны пачынаюць падаць.

У параўнаньні з верасьнем 1929 г. і 1930 г. цэны наступных прадуктаў (сыр'я) упалі на сьвятовым рынку

| | | | |
|---|---|---|---|
| пшаніца | на 23% | скура | на 28% |
| хлапок | „ 26% | кава | „ 35% |
| цукер | „ 22% | серабро | „ 22% |
| і г. д. | | | |

У параўнаньні з цэнамі перадваеннымі, воўна напр., панізілася цяпер у цане на 16 прац. Вялікі размах ваўнянае вытворчасьці, галоўным чынам у Аўстраліі, выклікаў тое, што там замагазынаваны вялікія запасы воўны, якая аднак ня можа знайсьці збыту пры існуючых цэнах. Поруч з воўнай зазначаецца значнае паніжэньне цэнаў

хлапка, якое тлумачыцца пашыранай вытворчасьцю гэтага сыр'я ў Амэрыцы і Эгіпце, а таксама і тым, што серабро вельмі ўпала ў цане і гэткім чынам паменшылася пакупная здольнасьць краёў Усходу, як Кітай, Індыя і г. д., якія купляюць пераважна ўжо гатовы выраблены тавар. Што датычыць серабра, дык цана яго за адзін толькі 29 год упала на 27 прац.; выклікана гэта павялічанай здабычай серабра, галоўным чынам у Кітаі, дзе запасы серабра вельмі вялікія, а таксама пераходам Індыі з серабраннага грашовага абмену на залаты, што звольніла серабро ад яго грашавых функцыяў. Асаблівую ўвагу зварочвае на сябе паніжэньне цэн цукру, які за ½ года ўпаў у цане на сьвятовым рынку на 20 прац., прычым спажыцьцё цукру ў паасобных краінах, дзякуючы агульнаму аб'яднаньню, таксама ўпала. Аднак, як раз у краінах, дзе найбольш прадукуецца цукру,—ён найдаражэйшы. У Польшчы напр. цукер вывозіцца заграніцу па цане 30—35 гр. за 1 кілё (значна ніжэй вартасьці—бо яна вагаецца каля 50—55 гр. за кілё) у той час, калі на мяйсцовым рынку плаціцца (ў дэталічн. прадажы) 1.90 за 1 кілё. Гэты спосаб заграчнічнага гандлю, званы „дэмпінг", практыкуюць і іншыя краіны і датычыць ён цэлага раду іншых прадуктаў. З гэтага бачым, што краёвы спажывец мусіць за тавар плаціць даражэй, каб даць пэўнай галіне прамысловасьці працаваць на экспорт. Ці гэты спосаб падтрыманьня ўласнай прамысловасьці нармальны, ці ён сябе запраўды апраўдывае мы пабачым далей.

Адначасна з паніжэньнем цэнаў на вышэйуспомненыя продукты панізілася таксама цана некаторых мэталяў, як волава, цынк і часткова жалеза.

Як бачым, паніжэньне цэн датычыць сыр'я, як хлапок, цукер, мэталі, скура і т. д., але на асаблівую ўвагу заслугоўвае паніжэньне цаны збожжа на ўсіх сусьветных рынках, — што зьяўляецца адным з найбольш пякучых пытаньняў у гаспадарчым жыцьці ўсіх краін, і асабліва краін з аграрнай структурай. Вось-жа, у гэтай галіне мы мусім адзначыць вялікую надпрадукцыю, якая зазначылася за апошнія гады. Вялікая подаж збожжа на сусьветным рынку, ня прыймаючы пад увагу Расею, вываз з якой збожжа вельмі нязначны, тлумачыцца ў першую чаргу пашырэньнем засеўнае плошчы абшараў Паўночнае Амэрыкі і краёў ляжачых у паўдзённай частцы нашае зямной кулі. Тэхнічны поступ таксама вельмі спрыяў інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі і значна большае яе выдайнасьці.

Паўночная Амэрыка, якая ў 1914 годзе мела пад засеў збожжа 22 міл. гэктараў, у 1928 г. мае ўжо 28 міл. гэкт., Канада ў 1913 г.— 5½ міл. гэкт., у 1929 г. 10 міл. гэкт., Аргэнтына ў 1914 г. 6,2 міл. гэкт., у 1928/29 г. 8,5 міл. гэкт., Аўстралія ў 1913 г. 3 міл. гэкт., у 1929 г. 6 міл. гэкт. Як вынік гэтага, павялічваецца і экспорт збожжа з гэтых краёў, які вынасіў перад вайной прыблізна 15 міл. тон, а ўжо ў пэрыяд 1923—27,—35 міл. тон. Апрача гэтага сцьверджана, што спажыцьцё збожжа ў агулу люднасьці зьменшылася на карысьць іншых расьлінных прадуктаў (вітамінавых). Прырост насельніцтва з другога боку ўплывае на павялічэньне спажыцьця збожжа, але гэтае павялічэньне спажыцьця, выкліканае натуральным прыростам насельніцтва, ня ідзе ў меру з павялічэньнем подажу, тым больш,

што тэмп прыросту насельніцтва слабы. Калі яшчэ прымем пад увагу, што ў пэрыяд 1925—28 г. ураджай у Амэрыцы быў надта добры, а ў 1929 г. у Эўропе, дзякуючы чаму зьменшылася запатрабаваньне Эўропы на збожжа прывознае, дык зразумела, што такі вялікі рэмонэнт збожжа, які ляжыць на рынку ў Амэрыцы і іншых краінах, шукае сабе рынку ў Эўропе і гэткім чынам вельмі востра ўплывае на зьніжку цэнаў збожжа ўва ўсіх краёх. Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што за апошнія некалькі гадоў розныя дзяржавы ў Эўропе, імкнучысь да гаспадарчай самавыстарчальнасьці. пашыраюць абшар сваіх засеваў і інтэнсыфікуюць свае гаспадаркі. Гэты факт бязумоўна, мае меншае значэньне ў фармаваньні зьніжкавых цэн збожжа, аднак таксама заслугоўвае на ўвагу.

Такім чынам, мы бачым, як вялікая подаж на сусьветным рынку, уплывае на зьніжку цэн, а тым самым вядзе да паніжэныя пакупной здольнасьці шырокіх масаў сялянства, якія фактычна зьяўляюцца і мусяць зьяўляцца галоўнымі спажыўцамі прадуктаў прамысловасьці. Аднак такі стан рэчаў, калі моцна абніжана пакупная здольнасьць сялянства, нямінуча выклікае і зьніжку цэн прадуктаў прамысловасьці, прычым гэтая зьніжка даходзячы да пэўной мяжы застанаўляецца. Прамысловасьць, ня маючы рынку збыту для сваіх тавараў, пачынае перажываць крызіс безпрацоў'я. Аднак, як ня дзіўна, але мусім сьцвердзіць, што калі з аднаго боку ўпала цана на прадукты сельскае гаспадаркі, то з другога боку цэны прадуктаў прамысловасьці, ня гледзючы на так сама, як ужо ўспомняна вышэй, значную зьніжку цэнаў сыр'я амаль не зьмяніліся, а калі і ўпалі, дык нязначна. Разьбежнасьць паміж цэнамі сыр'я і цэнамі гатовых тавараў вельмі павялічылася ў параўнаньні з гадамі перадваеннымі. Зараз цэны сыр'я прыблізна ў 25% вышэйшыя за цэны перадваенныя,—цэны-жа фабрыкатаў г. зн. гатовых тавараў на 60% вышэйшыя цэн прадваенных. І вось тут крыецца адно з самых балючых мейсц сьвятовага гаспадарчага крызісу. У адным з важных чыньнікаў паглыбленьня гэтага крызісу з'яўляецца і манапольная арганізацыя, як дзяржаўная так і прыватная цэлага раду галін прамысловасьці, вялікі цяжар падаткавы і мытныя бар'еры, як для прадуктаў сельскае гаспадаркі так і прамысловасьці. Калі гаварыць аб лібэралізме гаспадарчым (г. зн. вольным абмене тавараў), дык мусіць ён датычыць у аднолькавай ступені як прадуктаў сельскае гаспадаркі, так і прамысловых. За апошнія часы робяцца розныя спробы гаспадарчага паразуменьня розных дзяржаў, аднак у сутнасьці рэчаў гэта нішто іншае, як скрытая экспанзыя дзяржаў з выпрабленай ўжо гаспадарчай структурай. Без узаемнага разуменьня істотных інтарэсаў кожнае гаспадарчае адзінкі, усякія спробы паразуменьняў заўседы канчацца нічым.

Да чыньнікаў, спрыяючых агульна-сьвятовому крызісу трэба так сама аднесьці, як зазначаюць некаторыя эканамісты, недахоп абаротнага і інвэстыцыйнага капіталу, для фінансаваньня як буйнай, так і драбнейшай вытворчасьці пры існуючай роўні цэн,—што выклікана зьменшанай прадукцыяй золата, заўважанай за апошнія некалькі гадоў, а так сама канцэнтрацыяй агромных залежаў золата ў некат. дзяржавах, як у Злуч. Штатах Амэрыкі і Францыі. А золата фактыч-

на з'яўляецца фундамэнтам кожнае крэдытнае сыстэмы ў дзяржаўным масштабе. Іншыя краіны, прыкл. Польшча, задаваляючыя меншымі запасамі золата, прымушаны для свае крэдытна-валютнае раўнавагі, карыстацца як пакрыцем свайго граш. абегу, дэвізамі, г. зн. вэксалямі на чужыну, або проста чужаземнай валютай, а гэтым самым імкнуцца да павялічэныя свайго экспорту, каб прыцягнуць такім чынам прыплыў вэксалёў (дэвізаў) і чужаземнай валюты.

Пераходзячы да прычын сучаснага крызісу, уласьцівым толькі пэўнай краіне, пр. Польшчы, дык, гаворачы аб іх, трэба зрабіць адну падставовую ўвагу; якія-б гэтыя прычыны ня былі, аднак яны ніколі не дадуць поўнага малюнку, калі ня прымем пад увагу фактары агульна сьвятовага значэньня, а таму і кожныя спробы палепшыць палажэньне чыста мяйсцовага характэру, могуць прынесьці карысьць, аднак яны будуць нявыстарчаючыя. Разьвіцьцё гаспадарчае ўсіх краёў так цесна зьвязана паміж сабой, што думаць аб нейкай гаспадарчай ізаляванасьці тэй, ці іншай краіны, ня можна. Пераходзячы да Польшчы, для якой характэрыстычны, ўжо вышэйуспомненныя зьявішчы,— аднэй з важных прычын сучаснага яе гасп. крызісу, — гэта перажываемыя дзяржавай палітычныя труднасьці, а што за гэтым, — адсутнасьць пэўнае гаспадарчае праграмы і нескансалідаванасьць гаспадарчых пачынаньняў, як і нявыразная палітыка ў адносінах да цэлага раду пытаньняў зьвязаных с сацыяльнымі і нацыяльнымі праблемамі нашага часу. Польшча, імкнучыся да захаваньня актыўнага гандлевага балянсу і свае валютавае раўнавагі, пашыраючы свой экспорт спосабам дэмпінга і то ў адносінах да цэлага раду прадуктаў, —адбірае гэтым самым шырэйшым слаям жыхарства магчымасьць спажываць гэтыя прадукты (прыкл. цукер), што мае непамысны ўплыў на агульна жыцьцёвы ровень насельніцтва. Неадпаведнае праўнае нармаваньне зьявішчаў гаспадарчага жыцьця, выклікала ў гандлёвых сфэрах моцнае пачуцьцё безадказнасьці і дэмаралізуючы ўплывае гэта безпасрэдня і на спажыўцаў. Адсутнасьць і даражыня крэдыту, асабліва патрэбныя для сельскае гаспадаркі выклікае застой, які паглыбляецца яшчэ і падаткавымі цяжарамі. Загранічны капітал, дзякуючы вышэй акрэсьленым варункам, вельмі неахвотна ідзе ў Польшчу. Толькі пры ўмовах палітычнае і гаспадарчае скансалідаваннасьці, пабуджэньня і падтрыманьня грамадзкае гаспадарчае ініцыатывы (напр. коопэрацыі), і разуменьні патрэбаў, кожнае гаспадарчае адзінкі магчыма палепшаньне. Каб самімжа прычыніцца да палепшаньня свайго гаспадарчага стану. трэба прызнаць, што Беларусь, дзякуючы прычынам-гэаграфічна-палітычнага характэру ёсьць краінай аграрнай і што разьвіцьцё прамысловасьці можа ісьці толькі ў пэўных абмежаваных рамках. Мы ня можам спадзявацца, каб пры сучасным стане тварылася ў нас прамысловасьць, бо на гэта няма ані капіталаў, ані адпаведных варункаў. І таму галоўная ўвага мусіць быць зьвернута на сельска гаспадарчую прадукцыю. Пастаўленае на адпаведную вышыню і, маючы з часам ужо сваю выпрацаваную гаспадарчую традыцыю,—яна зьявіцца магутным фактарам нашага гаспад. адраджэньня.

**А. Сваян.**

# Сельска-гаспадарчая коопэрацыя.

З разьвіцьцём капіталістычных суадносінаў у грамадзянстве — гэтыя суадносіны пранікаюць і ў сялянскае жыцьцё, прыймаючы там сваявідны характар эксплёатацыі насельніцтва, галоўным чынам ліхвярскім капіталам.

На гэтым груньце вырасла крэдытная коопэрацыя, якая мае на мэце шляхам разьвіцьця самадзеяльнасьці сялянскіх масаў арганізаваць танны й даступны крэдыт, пазбаўлены ліхвярскіх пачаткаў.

Аднак, у сувязі з масавым наплывам на эўрапэйскіх рынках амэрыканскага хлеба стварыліся такія ўмовы, калі адсталыя, малапрадуктыўныя сялянскія гаспадаркі, каб утрымацца на паверхні жыцьця,—павінны былі аб'еднывацца ў разнаякія коопэратыўныя арганізацыі, маючыя ўжо ня толькі крэдытны характар, але скіраваныя на павялічэньне прадуктыўнасьці зямлі, на палепшаньне пароды жывёлы, арганізацыю вывазу прадуктаў сельскае гаспадаркі сваімі ўласнымі коопэратыўнымі сіламі і т. д. Дзякуючы разьвіцьцю гэтых гаспадарчых формаў—у сялянскай гаспадарцы адбываецца пералом, цэлая бязкроўная рэвалюцыя, уводзячая новыя адносіны й ствараючая новыя ўмовы для вядзеньня гаспадаркі.

Да гэтага часу яна насіла ізаліраваны характар: кожны селянін паасобку капаўся на сваім кавалку зямлі, ня будучы эканамічна аб'еднаным у сваей вытворчай дзеяльнасьці з падобнымі да сябе.

Тое, што было не пад сілу асобнай сялянскай гаспадарцы, аказалася магчымым, калі гэтыя гаспадаркі аб'ядналіся ў коопэратыў. Толькі тады яны маглі арганізаваць, напрыклад, масладзельны завод, прыдбаць удасканаленыя сельска-гаспадарчыя машыны й прылады, будаваць элеватары і г. д.—словам, маглі паставіць сваю вытворчасьць на адпаведным тэхнічным роўні і гэтым самым ня толькі канкураваць з сваімі радзімымі памешчыкамі, але й з заакеанскімі фэрмэрамі.

Вядома ўсім, якую вытворчую перавагу мае буйная, добра пастаўленая, гаспадарка,—і вось, дзякуючы коопэрацыі, і дробныя сялянскія гаспадаркі атрымалі магчымасьць выкарыстаць амаль усе гэтыя добраякасьці. Сельска-гаспадарчая коопэрацыя прыймае самыя разнавідныя формы, якія залежаць ад мяйсцовых умоваў.

Да гэтага часу няма яшчэ такой старонкі, дзе-б будаўніцтва сельска-гаспадарчай коопэрацыі насіла пляновы, агульнадзяржаўны характар, дзе-б урад узяў на сябе клопат пераарганізаваць дробную сялянскую гаспадарку на чыста коопэратыўных падставах. Да гэтага часу працэс коопэратызацыі сельскае-гаспадаркі ў розных старонках носіць неарганізаваны характар і суцэльна залежыць, галоўным чынам, ад сілаў і ўменьня сельскага жыхарства. У той-жа самы час трэба памятаць, што рэканструкцыя сельскае гаспадаркі пры помачы коопэрацыі мае аграмаднае значэньне ня толькі для сялянства, але і для ўсяго грамадзянства, аднак да гэтага часу гэтая вялізарнае вагі грамадзкая справа вядзецца саматугам, самімі сялянамі амаль бяз

ніякага ўдзелу з боку іншых клясаў грамадзянства і нават самога гаспадарства.

У шмат якіх старонках працэс коопэратызацыі сельскае гаспадаркі знаходзіцца ў зародышным стане.

Пытаньні мэтодыкі коопэратызацыі яшчэ чакаюць сваіх дасьледчыкаў, няма плянаў разгаліненае коопэратызацыі ў масавай шкалі, нават у найбольш коопэратыўных старонках пытаньнямі коопэратыўнае палітыкі, мала хто цікавіцца й т. д.

Аднак, ня гледзячы на гэткі стан рэчаў, — сельска-гаспадарчая коопэрацыя ўпорна вылазіць на паверхню жыцьця, захопліваючы адну галіну гаспадаркі за другой і творачы рэканструкцыю сялянскае гаспадаркі мірным шляхам, бяз крыку і шуму і ў той-жа самы час без усялякіх гвалтаў і іншых зьявішчаў, якімі, звычайна, адзначаюцца грамадзкія пераварoты.

Пройдзе яшчэ некалькі дзесяткаў гадоў і сялянская гаспадарка ўва ўсіх эўрапэйскіх старонках прыйме іншы, непазнавальны выгляд.

З мэтай уяўленьня ўсяе вагі пытаньняў коопэратызацыі сельскае гаспадаркі і шляхоў, якімі гэтая коопэратызацыя павінна ісьці, нам неабходна перш-на-перш спыніцца на тых тэхнічных працэсах, з якіх складаецца самая сельска-гаспадарчая вытворчасьць, бо ўсе пытаньні с.-г. коопэратызацыі зводзяцца, ў канцы канцоў, да коопэратызацыі гэтых працэсаў у пэўнай пасьлядоўнасьці.

Гэтыя працэсы вядомы коопэратар Чаянаў дзеліць на гэткія катэгорыі:

1. Мэханічныя працэсы, зьвязаныя з зямельным абшарам. Сюды можна аднесьці апрацоўку глебы, пасеў, жніва, касьбу й г. д.я

2. Біолёгічныя працэсы — як напр. вырашчэньне расьлінаў і г. д.

3. Мэханічныя працэсы першапачаткавай абробкі сыр'я (малацьба прыгатаўленьне масла, прадзеньне і г. д.).

4. Гаспадарчыя апэрацыі, якія зьвязываюць гаспадарку з вонкавым сьветам,—напр. купля і продаж, крэдытныя адносіны і г. д.

Паскольні аказываецца магчымым усю сельска-гаспадарчую вытворчасьць у цэласьці разьбіць на паасобныя тэхнічныя працэсы — заданьнем сельска-гаспадарчае коопэрацыі зьяўляецца скоопэратызаваньне гэтых працэсаў, якія выконываюцца сялянствам да гэтага часу індывідуальнымі сіламі.

Праўда, некаторыя з гэтых працэсаў, цяжка паддаючыяся коопэратызацыі, асабліва, калі яна вядзецца без усялякага загадзя выпрацаванага пляну і калі пры гэтым ня былі загадзя скоопэратызаваны іншыя галіны гаспадаркі, лягчэй паддаючыяся гэтаму працэсу, на якіх сялянскае жыхарства „набіваець“ сабе руку ў коопэратыўным будаўніцтве наагул.

Разглядаючы першую з успомненых намі катэгорыяў, катэгорыю мэханічных працэсаў, зьвязаных з абшарам зямлі, — мы бачым, што вельмі шмат у гэтай галіне магчымасьцяў для застасаваньня коопэрацыі і, як паказаў досьлед некаторых старонак, з добрымі вынікамі.

У гэтай галіне мы можам пабудаваць наступныя віды коопэратыўных аб'яднаньняў:

а) машынныя таварыствы, маючыя сваім заданьнем застасавань-

ня на коопэратыўных падставах больш складаных сельска-гаспадарчых машынаў;

б) таварыствы сумеснай абробкі зямлі, якія шырока распаўсюджаны ня толькі ў Радах, але і ў Італіі;

в) мэліорацыйныя і водныя таварыствы.

Найменш складанай і, значыць, больш зразумелай і даступнай формай аб'яднаньня зьяўляюцца машынныя таварыствы, якія ствараюцца для набыцьця вельмі дарагіх сельска-гаспадарчых машынаў, як—жніваркі, малацілкі і г. д., або для прыдбаньня цэлага іх камплексу. Звычайна, машынныя таварыствы бяруцца самі прыдбаць штучныя гнаі, сэлекцыйнае насеньне, арганізуюць рэмонтныя майстроўні, будуюць элеватары і т. д. Словам, круг дзеяльнасьці гэтых таварыстваў можа быць надзвычай разнародны.

Стварыўшы, напр. такое таварыства, калі ёсьць дасьледжаныя кіраўнікі і сьвядомасьць сярод сялянства, можна было-б пры спрыяючых умовах распачаць будаўніцтва больш складаных коопэратыўных арганізацыяў.

Да ліку гэтых апошніх, больш складаных формаў, адносяцца таварыствы сумеснае абробкі зямлі і мэліорацыйныя і водныя таварыствы.

У нашых беларускіх умовах з пасьпехам можна было-б арганізоўваць у некаторых мяйсцовасьцях таварыствы для асушкі балотаў іператварэньня балоцістых абшараў у карысныя землі.

Аб арганізацыі таварыстваў сумеснае абробкі зямлі думаць покі—што ня прыходзіцца ўжо хоць-бы дзеля таго, што нават менш складаныя коопэратывы ня маюць у нас шырокага распаўсюджаньня.

На груньце другой катэгорыі працэсаў сельска-гаспадарчае вытворчасьці—біолёгічнай, якая, як гаварылася вышэй, абыймае сабой такія галіны гаспадаркі, як напр. дагляд за расьлінамі, нарашчэньне мяса ў мясных пародаў жывёлы й г. д., можна стварыць, напрыклад, наступныя коопэратыўныя аб'яднаньні:

а) пляменныя саюзы, маючыя на мэце гадоўлю пляменных пародаў жывёлы, арганізацыю пляменных разсаднікаў і г. д.;

б) таварыствы пляменных кнігаў;

в) кантрольныя таварыствы;

г) сэлекцыйныя таварыствы.

З гэтае групы коопэратываў асаблівае значэньне для сялянскае гаспадаркі маюць пляменныя саюзы, бо эканамічна слабай сялянскай гаспадарцы зусім не падсілу наладжаньне рацыянальнае жывёлагадоўлі. Як паказаў коопэратыўны досьлед Даніі, ёсьць поўная магчымасьць для сялянскае гаспадаркі грунтоўна палепшыць гэтую галіну гаспадаркі і завесьці палепшаныя пароды жывёлы, больш прадуктыўныя й больш даходныя.

На груньце **мэханічных працэсаў першапачатнае перапрацоўкі сыр'я** можна стварыць наступныя коопэратыўныя аб'яднаньні:

а) масладзельныя таварыствы;

б) таварыствы абмалоту (малатарскія т-вы);

в) бульбяныя, гародніна—сушыльныя і т. п. таварыствы.

З гэтае групы на асаблівую ўвагу заслугоўваюць малочныя таварыствы, ў асаблівасьці ў нас, на Беларусі, дзе, як вядома, малоч-

ная гаспадарка павінна адыгрываць большую ролю ў сельскай эканоміцы.

Ня меншае значаньне мела-б арганізацыя крахмальных заводаў, заводаў сушкі грыбоў, ягадаў і т. п. прадуктаў, што да апошняга часу знаходзіцца ў руках прыватных прадпрыемцаў, нажываючых на гэтым вялікія капіталы.

І, урэшце, тыя сельска-гаспадарчыя апэрацыі, якія зьвязываюць сялянскую гаспадарку з вонкавым сьветам, - даюць грунт для арганізацыі цэлага раду коопэратываў. Тут могуць быць пабудаваны такія аб'яднаньні:

а) закупачныя коопэратывы;
б) збытавыя;
в) крэдытныя таварыствы;
г) арэндныя таварыствы;
д) страхавыя саюзы.

Найбольшае значаньне з усіх пералічаных відаў у нашых варунках маюць крэдытныя таварыствы, пасьля ідуць таварыствы збыту і закупачныя коопэратывы.

Мела-б аграмаднае значаньне і арганізацыя такіх таварystваў, як арэндныя і страхавыя, аднак, з прычыны слабой коопэратыўнай сьведамасьці сярод нашага сялянства і яго нізкага культурнага роўня, гэтыя віды аб'яднаньняў наўрад—ці могуць мець шырокае распаўсюджаньне, прынамсі ў бліжэйшай будучыні.

З пададзенага намі пералічэньня, мы бачым такім чынам, якія шырокія магчымасьці істнуюць для коопэратыўнага будаўніцтва ў галіне сельскае гаспадаркі, магчымасьці, якія ў нас, напрыклад,—амаль ня выкарыстаны.

А між тым ёсьць такія старонкі, як Данія,—дзе коопэратыўнае будаўніцтва ўжо ахапіла амаль усе галіны сялянскае гаспадаркі і дзе коопэратыўная форма зьяўляецца пануючай.

Даволі сказаць, што ўсё дацкае сялянскае насельніцтва скоопэратызавана. На два міліёны насельніцтва Данія мае цяпер звыш 5.000 коопэратываў выключна сельска-гаспадарчага тыпу, — амаль кожны гаспадар зьяўляецца сябрам некалькіх коопэратыўных таварystваў.

Разнародныя віды сельска-гаспадарчае коопэрацыі, якія зьявіліся ўпяршыню толькі ў другой палове прошлага стагодзьдзя,—шырока, распаўсюдзіліся ня толькі ў Даніі, але і ў многіх іншых старонках, у чым лёгка пераканацца, пазнаёміўшыся з коопэратыўнай статыстыкай.

Па дадзеным, якія адносяцца яшчэ да 1922 г., ў 28 старонках налічывалася коопэратываў сельска-гаспадарчага тыпу—217.677.

На першым мейсцы стаіць Індыя з яе 42.148 коопэратывамі, з якіх 28.487 сельска-гаспадарчых крэдытных, 190 па збыту і закупу; больш падрабязных вестак, датычачых гэтае старонкі, у нас няма.

Нямеччына налічывала с.-г. коопэратываў 36.225, з іх: крэдытных 19.959, па збыту і закупу 4.512, малочных і масладзельных — 3.406, іншых—9.048.

Данія—ўсяго 3.150, з іх: па закупу й збыту 1.330, малочных і масладзельных 1.210, іншых 670:

Швайцарыя—ўсяго кооп. 7.000, з іх крэдытных 250, па закупу

і збыту 1000, малочных і масладзельных 3.500, іншых 2.250. (Дадзеныя ўзятыя з кнігі В. Цэлярыўса „Коопэрацыя і барацьба за сацыялізм“). Прыведзеных дадзеных будзе хіба даволі для таго, каб мець паняцьце, якою аграмаднаю сілаю зьяўляецца сельска-гаспадарчая коопэрацыя ў некаторых найбольш культурных старонках, дзе, як вядома калі арганізуюць які-небудзь коопэратыў, то будуюць яго салідна і трывала, пры помачы дасьледжаных і ведаючых кіраўнікоў.

Асаблівае распаўсюджаньне, як бачым з гэтых лічбаў, маюць малочныя і масладзельныя коопэратывы, што сьведчыць аб параўнаўчай даступнасьці і зразуменьні іх арганізацыйнай структуры, аб той датыкальнай, яснай для кожнага супольніка карысьці, якую дае гэтая форма аб‘яднаньня, не патрабуючы ў свой чарод вялікшых капіталаў на сваю арганізацыю.

Наагул трэба сказаць, што шырокае распашырэньне коопэратыўнага руху ўва ўсіх старонках і яго паглыбленьне можа быць вытлумачана тымі матэр‘яльнымі карысьцямі, якія атрымліваюць яго супольнікі, аб‘яднаныя ў тым ці іншым коопэратыве. Гэтыя карысьці можа не разумець толькі найбольш цёмная і адсталая частка сялянскага насяленьня, прызвычаенага да векавой рутыны й палохаючагася ўсяго новага.

Тыя матэр‘яльныя карысьці, якія атрымлівае скоопэратызаванае насельніцтва ад крэдытнае коопэрацыі, будуць разгледжаны намі ў іншым мейсцы, а ў дадзеным выпадку мы дакранемся ў кароткіх словах тых эканамічных плюсаў, якія атрымлівае сялянства ад сельска-гаспадарчых аб‘яднаньняў, коопэратызуючых некаторыя тэхнічныя працэсы.

Коопэратызацыя мэханічных працэсаў у земляробстве прыводзіць, як паказывалася вышэй, да арганізацыі машынных таварыстваў, таварыстваў сумеснае абробкі зямлі й т. п. аб‘яднаньняў.

Карысьці як для паасобнае гаспадаркі, так і для ўсяе іх суцэльнасьці ад арганізацыі, напрыклад, такога таварыства, як машыннае,—зусім відавочны. Толькі супольнымі высілкамі сялянская маса можа набываць дорага каштуючыя с.-г. машыны, якія зьберагаюць сялянскую працу і тым самым даюць магчымасьць скіраваць яе ў такія галіны гаспадаркі, якія патрабуюць, як напр. садоўніцтва і агародніцтва, большае затраты працы.

Ад застасаваньня сельска-гаспадарчых машынаў у земляробстве выігрываець ня толькі паасобная гаспадарка, але і усё грамадзянства ў цэлым, бо людзкая праца разпадзяляецца больш адпаведна да мэты, ад чаго павялічываецца яго прадуктыўнасьць.

Такія-ж работы, як напр. асушка балотаў і ператварэньне іх у прыгоднае для земляробства становішча, — зусім не даступныя паасобным сялянскім гаспадаркам; толькі злучыўшыся ў таварыства яны могуць дапяць вызначаную мэту.

Ня менш карысьці для сялянскае гаспадаркі дае коопэратызацыя біолёгічных працэсаў у сельскай гаспадарцы.

Калі возьмем напр. нашую жывёлагадоўлю, то мы выразна бачым, якое вялізарнае значэньне мае ў ёй палепшаньне пароды жывёлы пры помачы пляменных разсаднікаў, даступных толькі буйным гаспадаркам.

Часта жывёлагадоўля вядзецца да гэтага часу першабытным спосабам і нездавальняюча дзеля таго, што яна прыносіць такі нязначны даход у параўнаньні з іншымі старонкамі, дзе яна скоопэратызавана.

Арганізаваўшыся ў адпаведныя коопэратывы, сяляне маюць поўную магчымасьць завесьці пляменныя разсаднікі, палепшыць пароды жывёлы, навучыцца рацыянальнаму за ёй дагляду й г. д. У некаторых старонках, як напр. у той-жа Даніі, — нават такая, здавалася-б нязначная галіна гаспадаркі, як птушаводзтва, і тая скоопэратызавана, прыносячы вялікшыя даходы сялянскаму насяленьню. Там істнуюць напр. асобныя курагадаўляныя саюзы, якія клапацяцца аб палепшаньні пароды курэй, павялічэньні іх носнасьці й г. д. Спэцыяльныя інструктары аб'яжджаюць гаспадаркі сяброў курагадаўляных саюзаў, робяць выбар нягодных курэй, даюць парады і паказаньні і кантралююць усю гэтую галіну гаспадаркі. Робіцца гэта ўсё ў Даніі не таму, што там сялянству прыйшло ў галаву такая „пустая" фантазія, а толькі таму, што такое наладжаньне справы зьяўляецца найбольш карысным.

У выніку, экспорт яек у Англію займае паважнае мейсца ў дацкім замежным гандлі. Здавалася-б, што і ў нас істнуюць усе тэхнічныя магчымасьці для таго, каб паставіць хоць-бы гэтую галіну гаспадаркі на тую вышыню, на якой яна стаіць у іншых старонках, аднак нізкі культурны ровень нашага сялянства і слабая коопэратыўная сьведамасьць — зьяўляюцца амаль не пераможнай перашкодай.

Коопэратызацыя мэханічных працэсаў першапачатнай абробкі — напр. у выглядзе тварэньня масладзельных коопэратываў і г. д., настолькі карысна для насяленьня, што яна адчула і зразумела гэта нават у найбольш адсталых старонках.

Калі гэты від коопэрацыі разьвіваецца яшчэ слаба ў некаторых мейсцах, як напр. у нас, на Беларусі, то гэта адбываецца галоўным чынам па прычыне нашага славянскага гультайства і нярухлівасьці, а таксама часткай па прычыне адсутнасьці энэргічных і інтэлігэнтных кіраўнікоў.

Трэба спадзявацца, што гэты від коопэратыўных аб'яднаньняў у будучыні павінен у нас атрымаць самае шырокае распаўсюджаньне.

**Ф. Акінчыц.**

(Працяг будзе).

---

# Гадоўля сьвіней.

Аднэй з выдатных галін нашае сельскае гаспадаркі ёсьць гадоўля сьвіней. Жывёлагадоўля і асабліва гадоўля сьвіней якраз адпавядаюць характару нашае палявое гаспадаркі, бо край наш ёсьць тыпова бульбяны.

Сьвіньні адзначаюцца малою пераборчывасьцю, што тычыцца корму і вялікай здольнасьцю ператвараць спажыты корм у мяса і тукі. Ні адна свойская жывёла не патрапіць так зужыткаваць спа-

жыты корм, як сьвіньня. Пры добрым даглядзе ангельскія іоркшыры і бэркшыры патрапяць пятую частку, аж чвэрць, спажытага імі корму ператварыць у мяса і тукі, тагды як іншая свойская жывёла (за выключэньнем маладых цялят) патрапяць ператварыць у мяса і тукі толькі дзявятую частку спажытага імі корму.

Аднак ня кожны гатунак сьвіней так добра зужыткоўвае корм. Есьць гатункі, якія далёка стаяць пазаду за ангельскімі культурнымі сьвіньнямі.

Да такога гатунку адносіцца і нашая простая сьвіньня. Па будове свайго цела простая сьвіньня шмат чым адрожніваецца ад сьвіней культурных. Галава яе вялікая, з доўгім лычом, доўгая шыя, тулаў з бакоў сьціснуты, сьпіна выгнута дугою й доўгія, моцныя ногі. Коратка кажучы, будова цела ў яе такая, якая мала адпавядае для належнага насаджаньня мяса й туку. Такая будова цела завецца грубай.

У процілежнасьць нашай сьвіньні, ангельскія культурныя сьвіньні маюць малую галаву, кароткі загнуты ўгору лыч, доўгі і шырокі роўны тулаў і кароткія тонкія ногі. Гэтыя адзнакі ёсьць характэрнымі для высака прадуктыўных сьвіньняў. Выкармліваюцца ангельскія сьвіньні вельмі хутка й рана пачынаюць пладзіцца, дзеля чаго й завуцца скарасьпелымі.

З вялікіх ангельскіх сьвіней вялікаю папулярнасьцю карыстаюцца белыя іоркшыры і чорныя бэркшыры (трохі драбнейшыя). Чорная парода лічыцца больш вытрывалай. Вага дарослага белага іоркшыра ў сярэднім бывае 15—20 пудоў.

Яшчэ заслугоўвае ўвагі трэцяя ангельская парода — гэта сярэдняя белая ангельская сьвіньня. Па сваім ужытковым якасьцям яна нічым не адрожніваецца ад буйнага іоркшыра, толькі вага яе ў дарослым вяку бывае каля 10—12 пудоў. Плоднасьць яе добрая і пры скрыжаваньні з простымі сьвіньнямі атрымліваецца добры прыплод,

Вясьці гадоўлю чыстых ангельскіх сьвіней, якія вымагаюць добрага дагляду, ў абставінах нашае вёскі—рэч ня лёгкая. Аднак, пры добрым жаданьні, можна і нашу простую пароду давясьці да лепшай прадуктыўнасьці. Для гэтага трэба выбіраць для прыплоду найлепшыя сьвінкі і лучыць іх з ангельскімі кнырамі. З першага прыплоду ізноў павінны выбірацца найздатнейшыя самкі і далей лучыцца з ангельскімі кнырамі і г. д. Пры ўмелым выбары пляменьнікаў, такім спосабам можна ўжо ў 2—3 пакаленьні атрымаць устойчывую палепшаную пароду, якая будзе вызначацца добрай прадуктыўнасьцю і значнай вытрываласьцю.

Дзеля таго, што закуп ангельскіх кныроў патрабуе не малыя кошты, такая гадоўля для паасобных гаспадароў не падсілу.

У такім выпадку трэба, каб сяляне нашыя злучаліся ў таварыствы і ўжо на агульны кошт выпісвалі добрых ангельскіх кныроў. Пры добрай арганізацыі таварystваў, маладыя добрыя сьвінкі, паходзячыя ад найлепшых матак, маглі-б выменьвацца між сябрамі таварыства і ўжывацца на прыплод, што павяло-б да хуткага палепшаньня нашае простае пароды.

Усе адзнакі, як добрыя, так і адʻемныя, самец і самка перадаюць у аднолькавай меры пакаленьню, а таму выбар пляменьнікаў

мае вялікае значэньне. Кожны гаспадар павінен імкнуцца да таго, каб прыплод меў больш дэлікатную будову цела (як гэта ёсьць у ангельскіх сьвіней), бо пры такой будове цела сьвіньні маюць больш здольнасьці да выкарму

Аднак, пры выбары самкі на прыплод мусім уважаць і на тое, што самка павінна даваць як найбольш здаровых і вялікіх парасят. Такому прызначэньню можа адпавядаць тая самка, якая. папершае, паходзіць ад пладавітых бацькоў, ёсьць вялікага росту й мае даўгі тулаў, а, падругое, больш грубая будова цела не зяўляецца нэгатыўнай адзнакай. К таму, пры выбары самкі на прыплод, трэба ўважаць, каб яна мела найменш 12 добра разьвітых цыцак.

У той час, як самка можа мець і больш грубую канструкцыю свайго цела, кныр павінен адзначацца скарасьпеласьцю пароды.

Што-ж тычыцца дагляду і выкарму сьвіней, то аб гэтым будзе пададзена ў наступным нумары нашае часопісі. **С. Б.**

---

# Аб палепшаньні сенажацьцяў.

Нягледзячы на тое, што сенажацьцяў у нас шмат, ураджайнасьцю іх мы ня можам пахваліцца, а тым балей якасьцю сена. А гэта з тае прычыны, што глебы сенажацьцяў ёсьць бедныя на пажыўныя складнікі і бракуе ім належнае апрацоўкі. Зборам сена мы што год забіраем пажыўныя складнікі, якія глеба выдае на ўзрост травы, а ўзамен за гэта глебе нічога не зьвяртаем. Зразумела, што такія сенажацьці, пакінутыя толькі на дзеяньне прыродных чыньнікаў, пазарасталі кіслаю травою і мохам. Да таго яшчэ веснавая пастава на іх, якая часта практыкуецца нашымі гаспадарамі, ня толькі шкодна ўплывае на рост травы, але спрычыняецца таксама да тварэньня куп'я

Найгоршым ворагам травяное расьліннасьці нашых сенажацьцяў ёсьць мох. Гэты небясьпечны паразыт забірае траве пажыўныя сокі, мейсца, вільгаць і г. д. Часта бывае, што мох абсядзе палавіну і больш паверхні сенажацьці. Каб пазбавіцца яго, трэба сенажацьці ўвосені або вясною баранаваць спэцыяльнымі сенажатнымі боранамі. Калі такое бараны няма, то можна баранаваць і звычайнаю жалезнаю бараною, толькі трэба яе адпаведна зацяжыць. Барануецца ўздоўж і поперак, і так доўга, пакуль не павыцягваецца ўвесь мох. Выбаранаваны мох добра зужыць на падсьціл, або даць у кампост. Таксама можна, праўда, з меншаю карысьцю, высушаны мох спаліць і попел раскідаць па сенажаці.

Баранаваньне сенажаці робіцца ня толькі для выдзіраньня моху, але таксама дзеля асьвяжэньня дзірвану. Баранаваньнем паверхня ўспульхніцца, стане лепшы доступ паветра ў глебу, а гэтым самым прападае кваснасьць глебы, шыбчэй пойдуць працэсы да павялічэньня глебавых прадуктаў прыступных для спажываньня расьлінай. К таму яшчэ баранаваньнем значна абмежыцца выпароўваньне вільгаці з глебы і палегчыцца доступ дажджавое вады ў глебу.

Баранаваць можна сьмела і ня трэба баяцца, што ўраджай гэ-

тым можа паменшыцца. Замест парваных бараною каранёў хутка вырастуць новыя, і трава пачне куды ляпей расьці. Пасьля такога асьвяжэньня дзірвану, можна ўжо і ў першы год заўважыць павялічэньне ўкосу.

Само сабою разумеецца, што такое асьвяжэньне дзірвану можна толькі тады рабіць, калі паверхня сенажацьці ёсьць роўная. Нажаль, большасьць нашых сенажацьцяў пакрыта куп'ём і хмызьняком. Каб мець і з такіх сенажацьцяў карысьць, трэба перш за ўсё выкарчаваць хмызьняк, зьнішчыць кратавіны і мурашнікі. Калі купінаў на сенажацьці ёсьць няшмат, то можна пазбавіцца іх такім спосабам: купіну разсякаюць накрыж востраю рыдлёўкаю, зямля з купін раскідваецца па сенажацьці, а дзярно кладзецца на старое месца і ўтаптываецца.

Часта дзярно з купін не кладуць на старое месца, а складаюць яго ў кучу і потым, перапрэўшы, яно становіцца вельмі добрым угнаеньнем. Голыя-ж месцы, застаўшыяся пасьля купін, засейваюцца травою.

Можна таксама пазбавіцца купін убіваньнем іх трамбоўкай, але праца гэта можа быць праведзена толькі загадзя вясною, калі зямля толькі што разьмерзла.

Калі-ж куп'ё займае вялікую плошчу, то трэба ўжыць тады спэцыяльных куп'ярэзаў.

Кратавіны трэба раскідаць па сенажацьці яшчэ сьвежымі, пакуль не сцьвярдзеюць. Звычайна робіцца гэта вясною і восеньню пасьля першага ўкосу. Муравейнікі найлепей зьнішчыць познаю восеньню, калі па вялікім дажджу павылазяць яны ў выжйшыя паверхі мурашніка, тады муравейнікі раскідаюцца і пасыпаюцца попелам ці каінітам. Разьбегшыеся мурашкі гінуць ад холаду й дажджу.

Асьвяжаючы дзірван баранаваньнем, мы толькі часткова палепшаем сенажаць. Грунтоўнае палепшаньне сенажацьці настане толькі тады, калі мы цалком зьнішчым стары дзірван і пасьля належнае палявое культуры, засеем нанова сенажаць адпаведнай мешанінай траў. Такое аднаўленьне сенажацьцяў робіцца наступным спосабам: пасьля першага ўкосу, сенажаць загорваюць і пакідаюць так ляжаць да вясны. Вясною поле барануецца і засяваецца аўсом ці вікаю з аўсом. Пасьля аўса гноіцца хлеўным гноем і на другі год даюцца акаповыя. Калі глеба за гэтыя два гады падрыхтуецца добра, то на трэці год можна разам з аўсом засяваць адпаведную мешаніну траў і канюшыны. Вялікае значэньне мае падбор адпаведнай мешаніны. Найлепшымі мешанінамі будуць тыя, у якіх налічваем 4—5 гатункаў траў матылякветных (канюшыны, люцэрны і інш.), 4—5 гатункаў траў высокіх і стольні-ж нізкіх. У працэнтных адносінах вельмі добра, калі матылякветныя складаюць 20% ($^1/_5$) усіх траў на сенажацьці.

Побач з мэханічнаю апрацоўкаю глебы, для палепшаньня сенажацьцяў патрэбна яшчэ і адпаведнае ўгнаеньне. Для ўгнаеньня сенажацьцяў трэба перш за ўсё выкарыстаць свае ўласныя гнаі, як хлеўная жыжка, кампост, попел, але такіх гнаёў звычайна бывае мала, а таму гаспадар мусіць дакупляць яшчэ штучныя гнаі. Зразумела, што ўраджай будзе шмат залежаць ад таго, які гной ужывем. Пэўным штучным гноем, якога патрабуе большасьць нашых сенажацьцяў, —гэта вапна. Даючы на сенажаць вапна,мы прыдаем, папершае, па-

жыўны складнік для расьліны кальцы, а падругое, вапна зьніштажае квасnasьць глебы, а гэтым самым спрыяе росту добрых салодкіх траў. Ужываецца вапна ад 50 пуд. аж да 200 пудоў на дзесяціну. Вапна ўвосені вывозіцца на сенажаць і кладзецца маленкімі купкамі, а потым раскідаецца і цяжкімі боранамі забараноўваецца

З іншых штучных гнаёў ужываюцца для ўгнаеньня сенажацьцяў фосфарныя і паташовыя; гнаі азотавыя бываюць менш патрэбнымі. З фосфарных гнаёў можна з добрым пасьпехам ужыць танейшых, якія хаця і павальней рашчыняюцца, але ўжытыя на нашых сенажацьцях, дзе ёсьць амаль заўсёды большая, ці меншая квасnasьць, даюць добрыя вынікі. Да такіх гнаёў адносіцца тамасавая мука, фасфарытная і касьцяная мука. Тамасавае мукі ўжываецца каля 25 пудоў на дзесяціну. Што тычыцца фасфарытнае і касьцяное мукі, то іх можна даваць у значна большай меры.

З паташовых гнаёў на сенажацьці ўжываюць часьцей каініт. Паміма таго, што каініт мае ў сабе пажыўны складнік паташ, ён яшчэ вельмі добра дзее супроць зарастаньня сенажацьці мохам. Такі ўплыў, як каініт, робіць на сенажаць і попел, а таму попел вельмі карысна перахоўваць у сухім мейсцы ўжываць на ўгнаеньне сенажацьцяў.

Паміма штучных гнаёў, якія наш гаспадар не заўсёды можа купіць, ужываюць для гнаеньня сенажацьцяў і натуральных гнаёў. З гэтых апошніх часьцей усяго хлеўная жыжка і кампост. Хлеўнай жыжкай гнояць вясною і пры гэтым трэба яе перад гнаеньнем напалову разбавіць вадою. Паліваць ёю трэба ў часе хмурнае пагоды. Разбаўленае жыжкі можна даваць да аднаго вядра на 1 кв. сажань.

Вельмі добрым гноем для сенажацьцяў ёсьць кампост, які складаецца з розных перагніўшых адпадкаў. Пры стараньні, яго можна прыгатаваць вялікую колькасьць. Асабліва добры ўплыў на сенажатную расьліннасьць робіць кампост, які прыпраўляецца з адпадкаў з дамешкаю вапна.

Што-ж тычыцца забалочаных сенажацяў, то травяная расьліннасьць на іх ёсьць вельмі нізкай кармавой якасьці. Растуць на іх пераважна вострыя й кіслыя травы, якіх кармавая вартасьць бывае ніжэй саломы. Каб і такія сенажацьці давалі належную карысьць, трэба іх перш за ўсё асушыць і толькі тады можна думаць аб палепшаньні на іх расьліннасьці. Зрабіць-жа асушку большых плошчаў — справа ня лёгкая. Дзеля гэтага, трэба закласьці воднае таварыства, якое павінна пастарацца ад Земляробскага Банку доўгатэрміновага крэдыту і ад сябе павясьці ўсю справу асушкі. С. А.



# Сіласаваньне корму.

Яшчэ да вайны разьвіцьцё сельскае гаспадаркі Беларусі ішло ў кірунку жывёлагадоўлі. У сучасны-ж момант, дзякуючы пануючаму цяпер збажоваму крызісу, разьвіцьцё нашай сельскай гаспадаркі яшчэ шпарчэй павінна пайсьці ў гэтым кірунку. У данным выпадку мы мусім браць прыклад з Даніі, якая ў канцы мінулага стагодзьдзя, з прычыны падобнага-ж крызісу, перайшла са збажовай прадукцыі на жывёлагадоўлю.

Разумеецца, што з павялічаньнем жывёлы цесна зьвязана пытаньне аб большым прадукаваньні харчоў. Гэтае апошняе можа быць дасягнута толькі пры наступных умовах: папершае, палепшаньнем нашых сенажацяў мэтазгоднай мэліорацыяй; падругое, — адвядзеньнем большае плошчы ральлі пад кармовыя расьліны. Што тычыцца першае ўмовы, то спадзявацца на хуткае здзейсненьне яе ня прыходзіцца, бо забалочаныя плошчы ў нас досыць значныя, для асушкі якіх патрэбны вялікія капіталы. Засяваньне-ж большай плошчы кармавымі расьлінамі пара ўжо даўно зрабіць першачарговым заданьнем. Аб ім мы яшчэ будзем мець магчымасьць гутарыць у наступных нумарох нашае часопісі. Цяпер-жа пастараемся толькі высьвятліць, якім спосабам землярobы заграніцай забясьпечваюць сябе ў патрэбнай колькасьці танным кормам для жывёлы. Маем тут на думцы сіласаваньне сьвежага сачыстага корму.

Сіласаваньне палягае ў тым, што сьвежы сачысты корм, як кукуруза, конскі зуб, лісьцё буракоў і г. д., укладаюцца такім чынам, каб да яго ня мела прыступу паветра. У такім, пазбаўленым паветра корму, вытвараецца малочны квас, які і кансэрвуе корм. А дзеля таго, складаючы корм у адпаведную будову (silos), ці проста ў яму, трэба гэты корм як найбольш утаптаць, каб у ім засталося як найменш паветра. Пасьля таго як корм уложаны і добра ўтаптаны, верх яго пасыпаецца тонкім пластам сечкі, або мякіны на якую кладзецца пласт зямлі ў аршын таўшчынёю.

Калі зямля потым трэскаецца, шчылінкі трэба замазваць глінаю.

Будовы для сіласаваньня бываюць featured рознай формы і з featured рознага матэрыялу. Могуць гэта быць высокія мураваныя вежы, або нізкія швайцарскія каморы і, нарэшце, выкапаныя ў зямлі ямы. У малых гаспадарках часьцей за ўсё ужываюць для сіласаваньня ямы (ляпей, калі яны вымураваны). Для невялікай колькасьці корму можна ўжыць з добрым пасьпехам вялікіх бочак. Пры будаваньні сіласаў, ці капаньні ям, трэба старацца, каб у сярэдзіне іх, куды накладаецца корм, ня было вострых кутоў. У кутах корм кепска злягаецца і ў ім застаецца шмат паветра, дзякуючы якому корм псуецца.

Пры капаньні ям трэба яшчэ ўважаць, каб сьцякаючая па паверхні вада, а таксама і грунтавая, ня мелі прыступу да наложанага корму, інначай корм лёгка псуецца. Добраю глебаю для капаньня ям ёсьць глiністая. Даўжыня ям можа быць давольнай, шырыня-ж звычайна бывае ня больш 4 арш. і глыбіня 3 аршыны.

Дзе глебы пяшчаныя, або дзе блізка пад паверхняю знаходзіцца грунтавая вада, там сіласуюць корм складаньнем у сьцірты вышынёю 2½—3 арш. Да таго, пры пяшчанай глебе, трэба на тое мейсца дзе мае складацца корм, навязьці гліны і зрабіць ток. Зьвезяны сачысты корм трэба таксама добра ўтаптаць, а іншы раз, утоптаны корм пакрываюць яшчэ дошкамі і абцяжаюць каменьнямі. Калі з накладаньнем і ўтоптваньнем корму скончана, яго прыкрываюць з усіх бакоў пластом зямлі (добра глінаю) таўшчынёю ў аршын. Калі з'явяцца шчыліны ў зямлі іх трэба замазваць глінай.

Пры сіласаваньні корм трацiць досыць значны лік пажыўных складнікаў, асабліва, калі сіласуецца корм у звычайнай яме. Нягледзячы на гэта, такі спосаб загатаўленьня кармоў на зіму ўсё балей і балей пашыраецца. Тлумачыцца гэта тым, што сіласаваньне дае гаспадару шмат карысьцяў, якія мы і пастараемся зараз збольшага пералічыць.

Перш за ўсё пры сіласаваньні нам не залежыць на стане пагоды, бо накладаюцца ў сілас расьліны сьвежыя, зараз-жа па скошаньню, абы ня былі толькі мокрымі. Найлепшай выгадай сіласаваньня ёсьць тое, што многія расьліны, як кукуруза, конскі зуб, сланешнік на адпаведных грунтах даюць вялікі збор зялёнае масы,—куды больш, чым канюшына, ці якая-небудзь мешаніна кармавых траў.

Тымчасам, сушыць гэтыя расьліны досыць цяжка і, падругое, цыб'е іх у сухім выглядзе нельга скарміць жывёлай. Пры сіласаваньні цыб'я размякнуць і са смакам паядаюцца жывёлай. Да таго яшчэ, такія плады, як прымёрзлая бульба, або буракі хутка псуюцца і гніюць, будучы-ж засіласаванымі даюць добры корм. З такіх расьлін, як лубін, якога ў звычайным выглядзе жывёла ня есьць, сіласаваньнем становіцца досыць добрым кормам. А дзеля таго, на бедных пяшчаных грунтах, дзе толькі лубін расьце добра, сіласаваньнем даецца магчымасьць гаспадару прызапасіць сабе патрэбную колькасьць корму. Умеючы добра сіласаваць корм, можна сьмела засяваць зараз-жа пасьля збору збажавых расьлінаў рожныя мешаніны кармавых траў, бо калі ня будзе магчымасьці высушыць, то заўсёды можна іх ужыць да сіласаваньня.

Да сіласаваньня можна ўжываць усе кармавыя травы, ня выключаючы і канюшыны. Праўда, што матылякветыя, як канюшына, люцэрна і інш. трудней заквашваюцца ў сіласе, дзякуючы таму, што маюць у сабе замала ўглягідратаў і шмат бялка. Таксама можна ўжываць да сіласаваньня лісьцьця садовых і лесавых дрэў, рожнае пустазельле і г. д. Пры гэтым трэба расьліны з цьвёрдым сьцеблам (сланешнік, кукуруза), перад тым як даваць да сіласу, на дробна парэзаць. Корм менш сачысты добра мяшаць з кормам больш сачыстым.

Прымаючы пад увагу ўсе вышэй прыведзенныя выгады сіласаваньня, варта каб і наш селянін вучыўся гэтым спосабам загатаўляць корм для свае жывёлы.

Т. С.

# Дагляд за садам увосені.

Для таго, каб садовыя дрэвы з вясны маглі належна разьвівацца і даць добры ўраджай, трэба яшчэ ўвосені зрабіць адпаведныя працы ў садзе. Да гэтых прац, у першую чаргу, належыць перакопываньне і ўгнаеньне зямлі, каб, такім чынам, к вясеньняму прабуджэньню дрэў вытварылася патрэбная колькасьць прыступных да карэньняў пажыўных складнікоў.

Што-ж датычыць угнаеньня глебы, то трэба мець на ўвазе, што гнаіць блізка каля пня ніколі нянарта, бо найбольш валакністых карэньняў, якімі дрэва прыймае пажыўныя складнікі, знаходзіцца пад абводам кароны. Добрым спосабам гнаеньня старэйшых дрэў — гэта дадаваньне гною ў равок, выкапаны на штых глыбка наўкола дрэва і так далёка ад пня, як сягае карона. Другім, вельмі добрым спосабам пасіленьня дрэў ёсьць паверхавае ўгнаеньне, якое праводзіцца наступным спосабам: на перакапаную пад каронамі дрэў зямлю, кладзецца пласт гною ў 2—3 вяршкі таўшчынёю, адступіўшы 4—5 вяршкоў ад пня. Голае мейсца наўкола пня пакідаецца дзеля таго, каб часам не падапрэла кара, або ня ўшкодзілі яе мышы. Дажджавою і сьнегавою вадою пажыўныя складнікі будуць вельмі лёгка з гною перадавацца да ўспульхненай зямлі і, апрача таго, вясною гной будзе добра бараніць ад выпароўваньня вільгаці з зямлі.

Таксама карысна гнаіць сады і штучнымі гнаямі. З азотных гнаёў можа быць з добрым вынікам ужыты амонны сярчан, якога даецца ўвосені пад дрэва ¼—1 фунт. Тамасоўкі (фосфарны гной) можна даць і 5—10 фунтаў на дрэва. Соляў паташавых даецца каля 1¼ фунта. Замест паташавых соляў можна прыгнойваць звычайным попелам з дрэва. Вапнаваньня глебы ў садзе можа быць зроблена адзін раз на некалькі гадоў (5—10), асабліва патрабуюць вапны костачкавыя дрэвы ( вішня, сьліва); глебу пад імі можна вапнаваць і часьцей.

Апрача гнаеньня зямлі, трэба яшчэ працярабіць карону, каб утварыць вясной правідловы рух сокаў у дрэве.

Большасьць практыкаў цьвердзіць, што вясеньняя абрэзка пхне дзерава больш да росту, тымчасам, як васеньняя - спрыяе ўтварэньню пладовых пупышкаў.

Пры працярэбліваньні, трэба зрэзы, зробленыя пілкай, гладка абстругаць нажом і, калі яны дыямэтрам больш аднаго вяршка, то трэба яшчэ і замазаць. Для замазкі можна ўжыць дравеснага воску, або каменавугольнага дзёгцю.

Працярэбліваньне кароны трэба рабіць вельмі ўважна. Вырэзываць можна, агулам кажучы, галінкі пашкоджаныя, хворыя, вельмі згушчаныя, ваўчкі (простыя, сільныя, растучыя прастападна галінкі); пры гэтым трэба старацца, каб вышэйшыя галінкі не расьлі коштам ніжэйшых, чаму можна запабегчы ўкарочваньнем вышэйшых галінак.

Далейшай работаю ў садзе ёсьць скрабаньне і бяленьне дрэў. Аскрабваньне старэйшых дрэў робіцца дзеля таго, што паверхня іхніх пнёў пакрыта старою і патрэсканай каронай, у якой месьціцца

шмат шкоднікаў і іх зародкаў. Апрача гэтага, у занядбаным садзе, кара дрэў бывае часта пакрыта лішаямі, мохам і іншай паразытнай расьліннасьцю, якія павінны быць таксама ўсунены. Зямлю наўкола пня перад скрабаньнем, трэба заслаць чым небудзь, каб кавалкі кары разам з мохам і шкоднікамі можна было сабраць і спаліць.

Скрабці трэба асьцярожна, каб не пашкодзіць здаровае кары. Працу гэтую добра рабіць у сырую пагоду, дзеля таго, што кара тады лепш адстае. Маладыя дрэўцы з гладкаю карою, не скрабуць. Калі-ж кара іх ня ёсьць зусім чыстая, то рэкамэндуецца пашмараваць яе шчоткай, памочанай у рашчыне мыла.

Пасьля аскрабаньня пнёў, трэба іх яшчэ выбяліць вапенным малаком, бо шмат шкоднікаў і зародкаў іх застаецца ў шчылінах. Вельмі карысна, дзеля барацьбы са шкоднікамі, апрыскваць ўсё дрэва вапенным малаком, карыстаючыся спэцыяльнымі для гэтага апаратамі-апрысківальнікамі. Калі-ж апрысківальніка няма, то добра хаця пень і таўшчэйшае гальлё, пакуль можна дастаць пэндзлем, абмазаць вапенным малаком. Каб вапна лепш трымалася на кары, радзіцца да вапеннага малака дадаваць яшчэ крыху гліны і дравеснага попелу.

**З. К.**

---

# Пытаньня і адказы.

## Люцэрна і эспарцэта.

**Пытаньне I.** Прашу апісаць культуру люцэрны і эспарцэты, Якое кармавое вартасьці абедзьве гэтыя расьліны і які даюць укос. а таксама колькі ёсьць гатункаў люцэрны?

**Адказ.** Люцэрна ёсьць матылякветая расьліна. З гатункаў яе найбольшай увагі заслугоўвае сеўная люцэрна, якая цьвіце блакітным колерам. шwэдская, якая ня вымагае добрай глебы і ёсьць доўгавытрывалай расьлінай, хмелевая, якую сеюць на цяжкіх грунтах на зялёнае ўгнаеньня і пяшчаная люцэрна, якая можа расьці на бедных пяшчаных грунтах, але малавыдатная расьліна.

Дзеля таго, што сеўная люцэрна мае найбольшае значэньне затрымаемся на ёй даўжэй.

Сеўная люцэрна ёсьць доўгавытрывалая расьліна і па кармавой вартасьці набліжаецца да канюшыны чырвонай. У добрых умовах жыве яна досыць доўга, але выкарыстоўваюць яе звычайна ня больш 6 гадоў. На добрых грунтах дае вялікі збор (3—4 укосы на год). Зьяўляецца добрым сачыстым кормам, але сушыць яе цяжка, бо далікатныя найпажыўнейшыя яе лісточкі лёгка абіваюцца. Дзеля таго найчасьцей выкарыстоўваюць яе, як зялёны корм. Касіць яе трэба загадзя, як толькі пакажуцца першыя галоўкі цьвету, бо потым яна хутка дзеравянее. Люцэрна вымагае зямлі добрай, пазбаў-

ленай пустазельля і з дастаткам вапны. Патрабуе глыбокай апрацоўкі. Дзеля таго трэба сеяць люцэрну пасьля акаповых, пад якія клалі шмат угнаеньня.

Калі глебе бракўе вапны, то трэба пасьля акаповых добра павапнаваць глебу. Пад самую-ж люцэрну гною ня даецца. Сеюць люцэрну, як чысты пасеў, або разам з ахароннай расьлінай, як і канюшыну. У апошнім выпадку ахаронная расьліна павінна быць засеяна радчэй і раней сабрана. Сеюць люцэрну ў маі месяцы. Высяваецца яе на дзесяціну каля 2 пудоў. Восеньню першага году люцэрну няможна ні касіць, ні спасваць, а толькі трэба выпалаць. У наступныя гады люцэрна гноіцца фосфарнымі і паташовымі гнаямі і кожную вясну барануецца.

У дадатак мусімо сказаць, што люцэрна вымагае цяпла і можа, іншы раз, у першыя гады па засеву вымерзнуць.

Што-ж датычыцца эспарцэты, то гэта таксама доўгавытрывалая расьліна. Вымагае шмат вапны ў глебе і ня зносіць макраты. Можа добра расьці на глебах з падглеб'ем камяністым і сухіх узгорках. Ня баіцца марозу і сушы Прыгатаўленьня глебы, гнаеньня і сяўба падобныя, як і ў люцэрны. Лепей сеяць яе з ахароннаю расьлінай. Высяваюць эспарцэты каля 2½ пудоў на дзесяціну, сеючы зернем і 9½—12 пудоў, сеючы стручкамі. Эспарцэта па кармавой вартасьці ня ўступае канюшыне, лепш сушыцца, а скормленая сьвежаю, ня тушыць. Збор корму дае значна меншы, чым люцэрна. Косяць яе звычайна адзін раз у год, а потым ужываюць як пашу.

---

**Грамадзяне**! Як найскарэй пастарайцеся запранумэраваць адзіную беларускую сельска-гаспадарскую часопісь „САХА“, бо акуратны яе выхад залежыць ад матар'яльных сродкаў, якія складаюцца з падпіскі.

# ПЧАЛЯРСКІ АДДЗЕЛ.

Пад рэдакцыяй старшыні Бел. Каапэратыўн. Т-ва „Пчала“ Людвікі Войцікавай.

## Засады рацыянальнае пчалярскае гаспадаркі.

Быў час на Беларусі, калі нашая пчалярская гаспадарка стаяла на зусім нізкім роўні, а то дзякуючы таму, што яна ня была рацыянальнай, г. зн. ня была такой, дзе-бы былі застасаваны веда і досьледы тых людзёў, теорэтыкаў і практыкаў, якія пасьвяцілі сябе гэтай галіне гаспадаркі і якія бязумоўна ўнясьлі ў яе шмат новага і карыснага. Пчаляры нашыя, жывучы кожын на сваю руку, вадзілі сабе пчолак у сваіх калодках, не дзеля таго, каб з іх мець паважную крыніцу даходаў, а проста сабе дзеля ласунку, каб на сьвятога Спаса сабрацца разам з суседзямі і знаёмымі, выдзерці мёд з калод, які з вялікім трудом нанасілі пчолкі, дый справіць банкет, на матыў таго, які дасканальна апісаны ў паэме Якуба Коласа „Новая Зямля“ ў аддзеле „Падгляд Пчолак“.

Усе гэта яшчэ нядаўнія часы, а і цяпер яшчэ спосаб т. зв. рабунковае гаспадаркі ня выйшаў зусім з жыцьця; ня выйшаў бо і надалей, шмат нашых пчаляроў водзіць пчолок дапатопным спосабам, ня маючы, а то і ня хочучы мець жаднае лучнасьці з тымі, хто працуець у гэтай галіне больш умела, хто маець веду і практыку. Вось-жа для тых пчаляроў нашай зямелькі і хацелася-б мне назначыць і высьветліць плян т. зв. рацыанальнае пчалярскае гаспадаркі. Плян гэты больш-менш можна зьмясьціць у трох аснаўных пунктах, ахапляючых панекуль усю гэтую галіну. Гэта будзе: 1) веда (теорыя), 2) стасаваньне веды (практыка), 3) лучнасьць (арганізацыя).

Разгледзіма каротка, што кажын з гэтых пунктаў скажа нам. Вось-жа веда, дасьць нам пазьнаньне жыцьця пчолак, іх фізіолёгічны ўстрой, іх прыроду, навыкі благія і добрыя, гатуткі пчолак, благія і добрыя бакі кожнага гатунку; теорыя павучыць нас аб новых карысных здабычах у гэтай галіне, тых людзей, якія ўжо на гэтым зубы зьядаюць. Адным словам, тэорыя дасьць поўны сьветапагляд на ўсю пчалярскую гаспадарку. Каб пазнаць яе трэба чытаць пчалярскія кніжкі, часопісі, журналы, трэба ўчашчаць на пчалярскія курсы і лекцыі, ладжаныя праз пчалярскія арганізацыі і г. д.

2) Практыка. Да практыкі пчаляр павінен ужо прыступаць з запасам пэўных неабходных тэорытычных пазнаньняў, а то, каб адчыніўшы вулей пчаляр ніглядзеў у яго, як баран у ваду. Бо-ж, практыка гэта ёсьць умелае стасаваньне веды ў сябе на пчальніку. Праўда, можа пчаляр і з благімі пазнаньнямі ў гэтай галіне практы-

каваць, але гэта яго змусіла-б паволі самому вынаходзіць і застасоўваць усё тое, што ўжо шмат гадоў вынайдзена і застасавана ў тых пчаляроў, якія маюць добрую тэорытычную падгатоўку і якія ня страцілі сувязі з другімі пчалярамі, з кніжкамі, з брашуркамі, і часопісямі. Усе гэтае для практыкі неабходна, бо практыка, як ужо было сказана, ёсьць стасаваньне веды, як веда ёсьць збор досьледаў практыкі.

3) Цяпер трэцьці пункт пляну рацыанальнае гаспадаркі, — лучнасьць (арганізацыя), зьяўляецца панекуль кардынальным пунктам, умяшчаючым у сабе пункты першы і другі і даючы яшчэ большую карысьць, карысьць пэўнасьці і стойкасьці пчаляра ў яго пачынаньнях, цераз належаньне да супольнае, моцнае пчалярскае сям'і. Вагу лучнасьці ў аднэй сям'і, здаецца нашыя пчаляры могуць зразумець з самога жыцьця пчолак. Жыцьцё жывёлкі-пчалы павінна быць прыкладам для гаспадара-пчаляра. Але неяк няйдзе з гэтым. Ужо трэцьці год, як істнуець у Вільні нашае коопэр. Т-ва „Пчала“ і сярод яго мы нябачым усіх тых, каго-б хацелася бачыць,—г. зн. ўсіх нашых беларускіх пчаляроў. Прыходзіцца сьцьвердзіць хвакт не разуменьня і не зацікаўленасьці. Для каго-ж патрэбна гэта арганізацыя, як не для самых пчалраў. Як пчаляр павядзе рацыанальна сваю гаспадарку, калі ён нямаець скуль дастаць кніжак, брашураў, часопісяў, парадаў і г. д., як ён павядзець рацыанальна гаспадарку, калі ён няможаць і ня ведаець дзе збыць мёд, дзе дастаць вузы; хто яму зробіць курсы, лекцыі, хто яму дасьць парады, так патрэбныя і неабходныя. Усё гэта толькі можаць зрабіць арганізацыя-сямья, дзе ўсе зносяць і кожны паасобку карыстаецца.

**Міхась Тулейка.**

---

## Некалькі слоў аб ператапліваньні воску.

Ці воск назначаецца для прадажы, ці дзеля пераробкі на вузу, важна, каб ён быў зусім чысты, сьветлы і прыемнага паху. Брудны і цёмны воск у гандлі мае нізкую цану, а пры пераробцы на вузу мусіць быць яшчэ ачышчаны, на што адыходзіць значны працэнт яго вагі,

Пры ператапліваньні воску трэба насамперад зьвярнуць увагу на якасьць пасудзіны, у якой яго будзем ператапліваць. Нельга ператапліваць у жалезных ці чугунных саганох, бо тады ўжо напэўна воск будзе цёмны; найлепшай пасудзінай зьяўляюцца эмаліяваныя або паліваныя—гліняныя гаршкі і цёрліцы. У апошніх трэба ператапліваць ставячы іх здалёк ад агню.—Калі-б воск і ў такім выпадку выйшаў цёмны, тады яго другі раз тапіць ня трэба, бо чым больш ператапліваць, тым воск горш цямнее. Перад вытапліваньнем воск трэба пасартаваць г. зн. аддзяліць маладую, сьветлую вашчыну ад старой—цёмнай.

Белую, маладую вашчыну найлепш ператапліваць у сонечнай васкатопцы, а калі яе няма, тады ўзяўшы шырокую камянную або глiняную паліваную пасудзіну наліць на дно гарачай вады, нала-

жыць шчыльна вашчыны і паставіць у печку пасьля хлеба. Калі вашчына растопіцца і будзе ў пасудзіне пустое мейсца, дакладаем у яе новую порцыю і гэтак робім пакуль пасудзіна ня будзе поўная растопленага воску. Пакуль вашчына топіцца перамешываем яе драўлянай лапаткай, каб воск ня прыгарэў. Калі вашчына зусім растопіцца, даем ёй устоіцца і тады зьліваем у гліняную—паліваную міску, змочаную перад гэтым салёнай вадой.

Старую, чорную вашчыну перад вытапліваньнем крышым на дробныя кускі, кладзём у драўляную бочку і заліваем цёплай вадой. Гэтак пастаіць яна цэлую пару; тады перамяняем ваду і зноў вашчына мокне другую пару. Пасьля гэтага вашчыну трэба выціснуць, або перапаласкаць насамперш гарачай, пасьля цёплай і ў канцы халоднай вадой. Дзякуючы такому перамываньню, адстане ад вашчыны сухая пярга г. зв. „кашулькі“.

Гэтак прыгатаваную вашчыну можна ператапліваць.

Дзеля гэтага бярэцца дзьве пасудзіны гліняна-паліваныя, з якіх адна вузейшая і вышэйшая ўваходзіць у другую—шырэйшую і ніжэйшую, на якіх 2½ цантымэтры. У верхняй тонкім і гострым цьвяком робяцца дзіркі адна ад аднэй на 1 цант. адлегласьці. Накладаецца туды вашчына і парыцца яе варам. Калі вашчына ад вару зробіцца мяккая, прыціскаецца яе лыжкай, шчыльна накрываецца накрыўкай і ставіцца яе з пасудзінай у тую другую пасудзіну, у якую на дно наліта гарачай вады. Гэтак наладжаная васкатопка, ставіцца ў печку пасьля хлеба. Воск топіцца і праз дзіркі сьцякае ў ніжнюю пасудзіну. Стаіць гэтак васкатопка ў печы праз усю ноч. У той час печка памалу астывае, воск паступова гусьцее, ачышчаецца і застывае. — Гэтак ператоплены воск ніколі ня бывае прыгарэўшы, заўсёды сьветлы і чысты. („Пчеловод-Практик“—1928 г.).

---

# Сёлятні збор.

**Вёска Ханаімаўшчына, Стаўпецкага павету.**

Даведаўшыся аб тым, што ў месячніку „Саха“ ўведзяны пчалярскі аддзел стараюся на старонках гэтага аддзелу напісаць пару споў аб сёлятнім мёдазборы, каб падзяліцца з нашымі пчалярамі. Вось-жа ў першую чаргу прыходзіцца сьцьвердзіць факт, што мёдазбор у сёлятнім годзе выпаў у нашых мяйсцовасьцях не найгоршы, але ня цікавы. Можна яго аднясьці ў лік сярэдніх. Сярэдня з кожнага вульля на маім пчальніку прышлося ўзяць пуд мёду. Прызнаюся, што галоўны ўзятак выпаў з палявых кветак у чэрвені, з ліпы і бязумоўна шмат памаглі мёдадайныя расьліны, якія я засеяў у садзе, атрымаўшы насеньне ад Т-ва „Пчалы“, а гэта: агурочніку і фацэліі. З грэчкі, дзякуючы холаду і працяглым дажджом, пчолкі амаль нічога не ўзялі, з верасу таксама. Што да збыту мёду, то прыходзіцца сьцьвердзіць той сумны факт, што збыт гэты ня ёсьць зарганізаваным. Дзякуючы сельска-гаспадарчаму крызісу, а гэта знача і безграшоўʼю кожын з пчаляроў паасобку вывозіць амаль увесь свой запас на рынак

у Стоўпцы і распіхае яго за бясцэнак, ствараючы гэтым самым немагчымую канкурэнцыю. Ці ня лепей было-б паразумеўшыся паміж сабою, трымацца аднэй цаны, або яшчэ ці ня лепей было-б сарганізаваўшыся і ўступіўшы ў нашую родную арганізацыю „Пчала", сарганізаваць збыт цераз яе, як гэта зрабіў я, тым больш што сёлетні мёд можна цалком аднясьці да першага гатунку, т. зв. ліпнёвага, а такі мёд хіба-ж мае добрую цану пры прадажы ў вялікіх местах.

**Я. Т.**

---

# З усяго сьвету.

## Звычайныя пчалярскія курсы.

У Амэрыцы зварочываюць усё больш і больш увагі на распаўсюджываньне фаховай веды з галіны пчалярства. У Паўночнай Дакоце, напрыклад, у апошнія 3 гады вядуцца з вялікім пасьпехам завочныя курсы пчалярства, пры помачы карэспандэнцыі. Навука вядзецца бясплатна, бяруцца толькі платы за паперу, паштовыя значкі і адбіваньне лекцыяў на мімэографе.

## Пчалярства ў Швайцарыі.

Згодна з статыстыкай у Швайцарыі налічываецца да 30,000 пчаляроў. Гэта значыць, што на кожныя 25 гаспадарак адна мае пчолы. Апошняя статыстыка выказывае на большае павялічэньне ліку пчолаў. У 1876 годзе налічывалася 177,120 вульлёў. Цяпер лік пчаліных сем'яў дайшоў да 300,000 і швайцарскія пчалярскія гаспадаркі маюць вартасьць 20,000,000 франкаў.

Кожны год падбіраецца мёду на суму 12,000,000 франкаў.

Усё-ж такі гэтага мёду жыхарам на свае патрэбы не хапае і кожны год у Швайцарыю ўвозіцца яго да 300,000 кіляграмаў.

---

# Паштовая скрынка Т-ва „Пчала".

**Міхалу Рымару.** Ліст Ваш пісаны вясной, толькі цяпер дайшоў да нашых рук. Дзеля гэтага, што інфармацыі, аб якія Вы просіце, могуць мець для Вас значэньне ў новым сэзоне, даем Вам кароткі адказ.

1) 1 кілягр. вузы каштуе прыблізна 13 злот.

2) Воск для пераробкі прыймаем не пазьней лютага месяца; за пераробку бяром 1/4 часьць воску і 50 грошы ад кіля. Перасылка вузы на рахунак заказчыка.

3) Гатовай пушыцы ня маем; ёсьць толькі галоўная яе частка: **нерат** (кашт. 26 зл.) да якога рэшта (бочка, падства да рамак і г. д.) дарабляецца дома.

---

# Дробныя парады.

### Украінскі спосаб загатаўленьня капусты.

Дзеля гэтай мэты выбіраюцца лепшыя цьвёрдыя качаны капусты і кладуцца на гадзін 8 у печ на падасланую салому, каб не забрудзіліся і не падгарэлі. Вынятыя з печы качаны, разрэзваюцца папалам і кладуцца ў бочку разрэзаннымі бакамі ўніз. Меншыя качаны можна і не разрэзваць. Пры накладаньні, трэба качаны перасыпаць шаткованай капустай, каб яна пакрывала качаны ня менш як на вяршок і добра ўбіваць. Солі прыдаецца, як і пры звычайным накладаньні шаткованай капусты.

Трэба адзначыць, што ў пабыўшых у печы качанах капусты праходзяць пэўныя хэмічныя зьмены, дзякуючы якім, пасьля налажэньня іх у бочку, вытвараецца шмат цукру і кісьлі, якія прыдаюць капусьце адменна добры смак. Пры чым цікава, што па заквашэньні качаны капусты становяцца ізноў храбусткімі.

### Як зрабіць мяшкі моцнатрывалымі.

Дзеля таго, каб мяшкі служылі даўжэйшы час і хутка ня гнілі, трэба іх вымачыць у адвары дубовае кары. Адвар прыпраўляецца наступным спосабам: на 1 кілёгр. ($2^{1}/_{2}$ фунт.) дубовае кары бярэцца 14 літраў ($5^{1}/_{2}$ кварт) кіпячае вады. Палатно, або мяшкі мочацца ў адвары 24 гадзіны, а потым вымываюцца, выпаласкваюцца вадою і сушацца. Такое палатно, прамочанае ў дубільнай кісьлі, ня так скора гніе і робіцца шмат мацнейшым.

# ХРОНІКА.

### Віленскі кірмаш на жывёлу.

Яшчэ да заканьчэньня ІІ-га Паўночнага Кірмашу ў Вільні, адбыўся 27—28 верасьня ў тымжа самым мейсцы (Бэрнардынскі сад) кірмаш на жывёлу. На кірмашы з гаўядаў фігуравала дзьве расы: ніжынная—чорна-белая і краёвая—чырвоная. Таксама на кірмашы былі яшчэ два аддзелы—гэта сьвіней і коняў. Пасьля кваліфікацыі раздадзена шмат нагародаў.

### Сёлетні прыпушчаньны ўраджай збожжа ў Польшчы.

Паводлуг паўторнага прыпушчальнага адгаду, выкананага ў м-цы верасьні Галоўным Статыстычным Урадам сёлетні ўраджай збожжа выглядае так: пшаніцы 19,1 мільёнаў квінталя (квінталь = 100 кілёгр = каля 6 пудоў), жыта 68,2 мільён. квінт., ячменю 13,8 міл. квінт. і аўса 21,8 міл. квінт.

Гэтыя дадзеныя яшчэ могуць быць значна зьменены, бо аканчальныя аблічэньні будуць зроблены ў часе малацьбы.

Ураджай-жа бульбы адгадваецца на 289,5 мільён. квінталяў. Адгад гэты выкананы перад капаньнем бульбы можа быць рахованы, як першае прыпушчэньне.

Паводлуг гэтых дадзеных у гэтым годзе толькі збор пшаніцы ёсьць трохі большы, як у мінулым годзе; жыта дало трохі меншы ўраджай, а авес і ячмень далі яшчэ значна меншыя ўраджаі ў параўнаньні з мінулым годам.

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: Інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Прасьв. і Гаспад Арганізацыяў і Інстытуцыяў.